праігнаравала ягонае права на доступ да інфармацыі аб дзейнасьці дзяржаўных органаў і не прызнала факт парушэньня закону аб зваротах грамадзянаў. Таксама каардынатар руху «За свабоду» кажа, што парушаецца яго права на доступ да правасудзьдзя.



Спадар Турчаняк дабіваўся ад адміністрацыі Ленінскага раёну Берасьця, каб яму патлумачылі, паводле якіх крытэраў ён ня быў уключаны ва ўчастковую выбарчую камісію. Адміністрацыя яму ў гэтым адмовіла.

Пасьля гэтага грамадзкі дзяяч падаў у Ленінскі суд скаргу на бязьдзеяньне гэтага органу і непрадстаўленьне ім інфармацыі. Дзяніс Турчаняк лічыць: не патлумачыўшы, чаму яго не ўключылі ва ўчастковую выбарчую камісію, Ленінская адміністрацыя Берасьця парушыла закон аб зваротах грамадзянаў.

Аднак суд Ленінскага раёну адмовіўся разглядаць гэтую справу, патлумачыўшы, што яна не ў яго юрысдыкцыі.

18 кастрычніка спадар Турчаняк спрабаваў абскардзіць ужо адмову суду першай інстанцыі ў абласным судзе. Незадаволены адказам і гэтага суду, грамадзкі дзеяч кажа, што будзе надалей дабівацца права на доступ да правасудзьдзя:

«Пасьля атрыманьня вызначэньня калегіі абласнога суду па грамадзянскіх справах я буду і далей абскарджваць, пайду і ў Вярхоўны суд. Тут атрымліваецца, што калі справа зьвязаная з выбарамі, то суды ўжо апрыёры яе ігнаруюць. Аднак я ж суджуся ня толькі з-за выбараў. Я дабіваўся, каб суд прызнаў, што чыноўнікі парушылі закон аб зваротах грамадзянаў. Бо яны не патлумачылі мне, якім менавіта крытэрам я не адпавядаў, што мяне не ўключылі ва ўчастковую камісію. Хоць тая камісія была сфармаваная не з максымальнай колькасьці чалавек».

www.svaboda.org/content/article/24743523.html

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

Наклад: 299 асобнікаў

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 8 (спецвыпуск), 2012

# Мяжа



## На Брэстчыне ў акруговыя камісіі трапілі адзінкі прадстаўнікоў апазіцыі

(Чытай на старонцы 6)

## ЗЬМЕСТ







цэнзуру. СМІ канцэнтраваліся на прэзідэнце і ўрадзе з вельмі малой увагай да кандыдатаў у дэпутаты”.

У дакуменце таксама адзначаецца: “У той час як папярэдняе галасаванне і галасаванне ў дзень выбараў характарызаваліся пазітыўна, працэс значна пагоршыўся падчас падліку галасоў”.

spring96.org/be/news/57907

## Берасцейская журналістка Мілана Харытонава паскардзілася ў пракуратуру на кіраўніцтва Берасцейскай-Заходняй выбарчай акругі №1



Падчас датэрміновага галасавання журналістцы была ажыццяўлена перашкода ў выкананні прафесійных абавязкаў. На выбарчым участку №44 фотакарэспандэнту было забаронена апытваць грамадзян на прадмет таго, за каго яны аддалі свой голас.

Службовыя асобы патлумачылі журналістцы, што яна, на іх думку, займалася не сваімі абявязкамі, мусіла толькі рабіць фатаздымкі, а ніяк не запісваць людзей на дыктафон. Акруговая камісія не змагла разгледзець яе скаргу, паколькі амаль адразу пасля выбараў прыпыніла сваё існаванне. Мілана Харытонава палічыла, што яе скарга наўмысна не была разгледжана, паколькі яе калегі-журналісты атрымалі адказы. На думку фотакарэспандэнта, быў парушаны закон “Аб звароце грамадзян” . Журналістка мае намер адстойваць свае правы да апошняга.

## Апазыцыянэр судзіцца з-за неўключэньня ў выбарчую камісію

Калегія Берасьцейскага абласнога суду па грамадзянскіх справах адмовіла каардынатару руху «За свабоду» Дзянісу Турчаняку, які прасіў накіраваць яго скаргу на Ленінскую адміністрацыю гораду ў суд ніжэйшай інстанцыі.

Дзяніс Турчаняк кажа, што калегія абласнога суду такім чынам

“Шматлікія абавязацельствы ў межах АБСЕ па дэмакратычных правах грамадзян на свабоднае вылучэнне кандыдатаў і магчымасць свабодна выказваць меркаванне не былі выкананыя”, — гаворыцца ў прэзентаваным дакладзе.

“Выбары не праводзіліся бесстаронна, а працэс падачы скаргаў і апеляцый не гарантаваў эфектыўнага сродку абароны”, — адзначаюць назіральнікі.

“Выбары не былі канкурэнтаздольнымі з самага пачатку, — заявіў кіраўнік місіі кароткатэрміновых назіральнікаў ПА АБСЕ Матэа Мекачы. — Свабодныя выбары залежаць ад магчымасці людзей свабодна гаварыць, свабодна арганізоўвацца і балатавацца, чаго мы не ўбачылі падчас гэтай кампаніі”.

Разам з тым ён падкрэсліў: “Мы па-ранейшаму гатовы працаваць з Беларуссю па прыняцці далейшых неабходных захадаў, што ў нашых агульных інтарэсах”.

У сваю чаргу кіраўнік місіі назіральнікаў БДІПЧ АБСЕ Антоніа Мілашоскі адзначыў: “Адсутнасць нейтралітэту і бесстароннасці з боку выбарчых камісій сур’ёзна падрывае давер грамадства да гэтага працэсу. Грамадзяне павінны быць упэўненыя ў тым, што іх галасы сумленна падлічаныя. Недахоп выразных працэдур падліку і магчымасцяў для назіральнікаў назіраць за гэтым, каб пацвердзіць вынікі, выклікаюць сур’ёзную трывогу”, перадае БелаПАН.

Назіральнікі ад АБСЕ таксама адзначаюць: “Нягледзячы на рост ліку кандыдатаў ад палітычных партый, вядомыя палітычныя фігуры, якія маглі сыграць сваю ролю, або заставаліся ў турме, або не былі зарэгістраваныя з прычыны наяўнасці крымінальных спраў”.

Акрамя таго, паводле меркавання назіральнікаў, “нягледзячы на некаторыя паляпшэнні выбарчага заканадаўства ў 2010 і 2011 гадах, заканадаўчыя межы ўсё яшчэ не гарантуюць правядзенне выбараў у адпаведнасці з абавязацельствамі ў межах АБСЕ і міжнароднымі стандартамі”.

“Выбарчая кампанія была ледзь прыкметная на працягу ўсіх чатырох тыдняў, — гаворыцца ў дакладзе. — Нягледзячы на тое што Канстытуцыя гарантуе ўсім права на свабоду самавыяўлення і ў краіне дастатковая колькасць СМІ, асвятленне кампаніі не дэманстравала шырокі дыяпазон поглядаў. Кандыдатам, якія заклікалі да байкоту, было адмоўлена ў свабодным доступе да медыя, або іх выступленні зведалі

## У Брэсцкай вобласці змяніліся межы выбарчых акругаў

У Брэсцкай вобласці вызначана 16 выбарчых акругаў - іх колькасць засталася ранейшай. Аднак, як паведамляе сайт газеты "Народная трыбуна", межы некаторых з іх перагледжаны, бо змянілася колькасць выбаршчыкаў.

Так, у Брэсце да Пагранічнай акругі №4 дадаліся частка Маскоўскага раёна і Брэсцкі раён. У Баранавіцкую сельскую выбарчую акругу №7, акрамя Баранавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў, далучаны горад Ганцавічы і частка Ганцавіцкага раёна, а другая яго частка аднесена да Лунінецкай выбарчай акругі № 13.

Упершыню ў дзвюх розных акругах будзе і тэрыторыя Бярозаўскага раёна. Так, горад Бяроза і частка Бярозаўскага раёна ўвойдуць у Пружанскую акругу №19, а астатнія сельсаветы і горад Белаазёрск - у Івацэвіцкую акругу № 11. Камянецкі, Жабінкаўскі і Маларыцкі раёны склалі Белавежскую выбарчую акругу №8.

spring96.org/be/news/53750

## Апазіцыя вылучае сваіх актывістаў у выбаркамы

На пачатку чэрвеня апазіцыйныя партыі ў Брэсцкай вобласці вылучылі 32 прадстаўніка ў акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Найбольшая колькасць вылучэнцаў належыць да Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" - 13 чалавек, з якіх чатыры вылучаныя ў абласным цэнтры. Па восемь сваіх сябраў вылучылі мясцовыя суполкі Партыі БНФ (з іх 2 – у Брэсце) і Аб'яднанай грамадзянскай партыі (5 – у Брэсце), а тры актывіста прадстаўляюць Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада), з якіх два вылучаюцца ў горадзе над Бугам.

Варта адзначыць, што згаданыя партыі разам з шэрагам іншых дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў стварылі ў рэгіёне абласны савет кампаніі "За справядлівыя выбары". Заснавальнікі гэтай структуры абвесцілі, што маюць намер вылучыць не менш за 100 прадстаўнікоў кампаніі ў выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, а таксама не менш за 400 назіральнікаў за выбарамі.

spring96.org/be/news/53691





несапраўднымі вынікі галасавання на выбарчым участку, які знаходзіцца у гарадскім шпіталі №1 Брэста (былая чыгуначаная лякарня). У сваім звароце Мельнік узгадвае, што яго асабіста не дапусцілі на падлік галасоў на гэтым участку, а сам працэс падліку бюлетэняў раптоўна перанеслі ў кабінет галоўнага лекара.

Паводле Аляксандра Мельніка, напачатку, калі падлік адбываўся непасрэдна на ўчастку для галасавання, стос бюлетэняў, у якіх была падтрымана ягоная кандыдатура, быў большы за іншыя. Аднак падлік спынілі і - перанеслі ў іншае памяшканне, а пасля абвесцілі, што з 337-мі выбаршчыкаў за Мельніка аддалі галасы 40 чалавек, а за дырэктара Брэсцкага ЦУМа Віктара Валюшыцкага – 219.

spring96.org/be/news/57877

## Былы кандыдат у дэпутаты не задаволены судовым рашэннем і высновамі пракуратуры

Амаль адчасова экс-кандытат у дэпутаты па Брэсцкай-Заходняй выбарчай акруге №1 Аляксандр Мельнік атрымаў адказы на свае скаргі, які тычыліся парушэнняў Выбарчага кодэксу падчас падліку галасоў у гарадской лякарні.

З суду Ленінскага раёну Брэста прыйшло паведамленне пра тое, што гэтая ўстанова не будзе разглядаць згаданую справу, але ў лісце не паведамляцца, на якіх падставах суд не хоча распачынаць працэс.

Адказ з мясцовай пракуратуры таксама несуцяшальны для Мельніка, бо і гэты орган паведаміў, што не мае намеру заводзіць адміністратыўную справу па выкладзеных экс-кандыдатам фактах парушэнняў у дзень галасавання.

Аляксандр Мельнік лічыць адмовы нематываванымі і збіраецца абскардзіць іх у Брэсцкім абласным судзе.

spring96.org/be/news/58649

## Назіральнікі АБСЕ: Выбары ў Беларусі нельга назваць свабоднымі і бесстароннімі

Даклад прэзентаваны 24 верасня на брыфінгу ў Мінску. Канчатковы даклад назіральнікаў АБСЕ плануецца падрыхтаваць на працягу двух месяцаў.

галасавання, паколькі яна “не збіралася ладзіць асвятленне правядзення выбараў”.

Як паведаміла Мілана Харытонава, насамрэч, падзеі разгортваліся іншым чынам: “Калі я прыйшла на выбарчы ўчастак, дык адразу паказала сябрам камісіі сваё журналісцкае пасведчанне. Пасля зрабіла некалькі здымкаў і паспрабавала запісаць каментар з выбаршчыкам (ён ужо прагаласаваў) і спытаць, чаму ён бярэ ўдзел у выбарах датэрмінова. Аднак дзве жанчыны з ліку сябраў камісіі пачалі казаць, што я не маю права задаваць пытанні, бо ім падалося, што я распытваю, за каго выбаршчык прагаласаваў. Калі высветлілася, што гэта не так, сябры камісіі ўсё роўна настойвалі, што калі ў журналісцкім пасведчанні пазначана, што я – фотакарэспандэнт, дык я магу толькі рабіць здымкі. Акрамя таго, ад мяне запатрабавалі, каб прад’явіла нейкія “службовыя інструкцыі”. Таму я вырашыла таксама звярнуцца са скаргай у акруговую выбарчую камісію, бо падчас наведвання ўчастка для галасавання былі парушаны мае правы як прадстаўніка СМІ, якія пазначаны ў артыкуле 13 Выбарчага кодэксу”.

spring96.org/be/news/57524

## Толькі на адным участку невядома калі прагаласавала амаль паўтысячы выбаршчыкаў

Незалежная назіральніца Валянціна Шорах, якая разам з іншымі калегамі ўсе дні галасавання адсочвала выбарчы працэс на участку №31 Брэсцкай-Заходняй акругі №1, што знаходзіўся на прадпрыемстве “Водаканал”, паведаміла пра істотныя адрозненні ў лічбах, якія тычацца яўкі выбаршчыкаў. Па яе словах, афіцыйныя дадзеныя участковай выбарчай камісіі па колькасці людзей, якія прыйшлі галасаваць, завышаныя ў параўнанні з падлікамі незалежных назіральнікаў на 467 асобаў. Валянціна Шорах кажа, што па яе звестках, выбары на гэтым участку не адбыліся, бо прагаласавала менш за 50% выбаршчыкаў, уключаных у спіс для галасавання.

spring96.org/be/news/57899

## Кандыдат просіцьануляваць вынікі выбараў

Кандыдат у дэпутаты па Брэсцкай Заходняй акрузе №1 Аляксандр Мельнік накіраваў скаргу ў акруговую камісію, у якой просіць прызнаць





## “Народныя абраннікі”: адказнасць перад выбаршчыкамі адсутнічае

Не ўсе дэпутаты Брэсцкага гарсавету дакладна ведаюць сваю выбарчую акругу і не гатовыя распавесці пра графік сваіх справаздач. Такую выснову можна зрабіць паводле вынікаў зваротаў грамадскіх актывістаў гэтага абласнога цэнтру да мясцовых народных абраннікаў.

Найбольш красамоўны прыклад здарыўся з лістом жыхароў дома № 320 па вуліцы Маскоўскай на адрас дэпутата выбарчай акругі №25 Уладзіміра Марозава, у якім грамадзяне прасілі яго прадставіць справаздачу аб сваёй дзейнасці за апошні год. У сваю чаргу Марозаў адказаў, што згаданы дом да яго акругі не належыць. Між тым, пасля адпаведных удакладненняў хутка высветлілася, што дэпутат не меў рацыю. Як распавяла грамадская актывістка Ганна Канюс, “такі адказ засведчыў, што дэпутат не працуе на сваёй акрузе, а самі выбаршчыкі не могуць трапіць на прыём да яго, бо невядомы графік такіх сустрэч”.

Падобныя звароты былі накіраваныя і іншым брэсцкім дэпутатам, але толькі палова з іх увогуле адрэагавала на заклік прадставіць справаздачу сваім выбаршчыкам. Пры гэтым адказы былі розныя: нехта паведамляў, што гатовы да сустрэч і абавязваўся нагадаць пра час і месца справаздачы праз аб’явы ў сродках масавай інфармацыі, іншыя накіроўвалі ініцыятарам зваротаў натуральныя адпіскі. Але, як нагадвае Ганна Канюс, згодна з беларускім заканадаўствам, дэпутат мясцовых саветаў павінен інфармаваць грамадзян пра графік сваіх справаздач не менш чым два разы на год.

spring96.org/be/news/53936

## Тэлесюжэты з элементамі агітацыі

Тэлерадыёкампанія “Брэст” пра маючыя адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў паведамляе сваеасаблівымі сюжэтамі з элементамі агітацыі, у якіх распавядаецца пра дзейнасць цяперашніх дэпутатаў ад Брэсцкай вобласці.

Так, 5 ліпеня ў вечаровым дзесяціхвілінным выпуску рэгіянальных навінаў амаль дзве з паловай хвіліны заняў рэпартаж з прыёма грамадзянаў па асабістых пытаннях дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Ларысай Багдановіч. Сам сюжэт меў назву “Яны ў адказе за сваіх выбаршчыкаў!” і быў прысвечаны не толькі непасрэдна прыёму грамадзянаў, што вёўся ў Брэсцкім абласным анкалагічным

дыспансеры, але і ўзгадваў жыццёвы шлях Багдановіч, якая да абрання ў парламент узначальвала дзіцячы рэабілітацыйны цэнтр "Тонус". Аўтары сюжэту падкрэслівалі плённасць працы гэтага дэпутата ў беларускім парламенце і фактычна агітавалі за тое, каб Ларысу Багдановіч падтрымалі людзі, што жывуць на тэрыторыі Брэсцкай-Цэнтральнай выбарчай акругі №2.

Дарэчы, калі на папярэдніх выбарах у Палату прадстаўнікоў у Брэсце былі сфармаваныя тры акргуі, дык зараз дадецца яшэч адна - Пагранічная №4, да якой аднесена частка тэрыторыі Маскоўскага раёна абласнога цэнтра і Брэсцкі раён.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

spring96.org/be/news/53950

## На Брэстчыне ў акруговыя камісіі трапілі адзінкі прадстаўнікоў апазіцыі

На сумесным паседжанні прэзідыума Брэсцкага аблсавета і Брэсцкага аблвыканкама было аб'яўлена аб стварэнні акруговых выбаркамаў Брэсцкай вобласці. Па вобласці створана 16 акруговых камісій, у кожнай з іх па 13 чальцоў.

Апазіцыйным партыям дасталася 15 месцаў. Задаволены ўключэннем у камісію толькі прадстаўнікі партыі "Справядлівы свет" і Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Іншыя выказалі сваё абурэнне:

Уладзімір Вуек – старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

- Рашэннем палітрады нашай партыі было вылучана 7 чалавек. І аднаго чалавека вылучылі зборам подпісаў. Уключылі толькі два. Хаця мы, улічваючы крытэры адбору, вылучалі людзей, якія маюць вопыт у выбарчых кампаніях. Былі кандыдаты педагагічных навук, з вопытам кіравання ў сферы адукацыі, гэты чалавек неаднойчы прымаў удзел у выбарчых кампаніях - у якасці даверанай асобы. Гэта Мікалай Канстанцінавіч Коўш. Ён не быў уключаны.

Уладзімір Малей, прававы інспектар Беларускага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці:

- Прэзідыумам рэспубліканскага прафсаюзу РЭП у склад акруговых камісій было вылучана 4 сябры прафсаюза. Аднак ні адзін з сяброў прафсаюза не быў уключаны ў склад акруговых камісій. У той самы час





## Студэнтаў тэхнічнага універсітэта таксама прымушаюць галасаваць датэрмінова

Пра вельмі высокую яўку выбаршчыкаў падчас датэрміновага галасавання паведамляюць назіральнікі, што адсочваюць сітуацыю на выбарчым участку №32 Брэсцкай-Усходняй акругі №3.

Гэты ўчастак для галасавання знаходзіцца ў кафэ "Зодчыя" (былая студэнцкая сталовая), і да яго належаць выбаршчыкі, што прапісаныя да разамешчаных побач інтэрнатаў Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта. Толькі на працягу 19 верасня на згаданым участку прагаласаваў 431 выбаршчык, што з'яўляецца сваеасаблівым рэкордам. Амаль усе, хто прыходзіў у гэты дзень на ўчастак для галасавання, з'яўляюцца студэнтамі БДТУ. Прычым, назіральнікі заўважаюць, што студэнты, як правіла, прыходзяць галасаваць арганізавана і ў той час, калі у іх павінны быць заняткі.

Таксама вельмі актыўна датэрміновае галасаванне адбываецца на яшчэ адным участку (№15) гэтай выбарчай акругі, якая размешачана на тэрыторыі інтэрната Брэсцкага дзяржаўнага медыцынскага каледжа. Паводле дадзеных незалежных назіральнікаў, 19 верасня там прагаласавалі 243 чалавекі. Як няцяжка здагадацца, гэта былі у асноўным прадстаўнікі гэтай навучальнай установы.

spring96.org/be/news/57583

## Участковая камісія скардзіцца на фотажурналістку

Сябры участковай выбарчай камісіі передалі ў Брэсцкую-Заходнюю акругу №1 заяву, у якой распавядаецца пра "некарэктнасць паводзінаў" з боку фотакарэспандэнта газеты "Брестский курьер" Міланы Харытонавай.

З тэкста заявы вынікае, што ў першы дзень датэрміновага галасавання на ўчастку для галасавання №44 Харытонава нібыта "непасрэдна каля выбарчай урны пачала ладзіць апытанне выбаршчыкаў, што прагаласавалі, тым самым перашкаджала іншым выбаршчыкам падыйсці ў памяшканне для галасавання". Далей у заяве гаворыцца, што ў адносінах да прадстаўнікоў выбаркаму Мілана Харытонава праявіла "незразумелую агрэсію, грубіла і падвышала голас на сябраў камісіі і старшыню". Аўтары скаргі таксама адзначаюць, што ім не зразумелая мэта з'яўлення фотажурналіста на ўчастку для




Дзяніс Турчаняк зьяўляецца даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты Аляксандра Мельніка, які вылучаецца ў гэтай акрузе.

Дзяніс Турчаняк ??Турчаняк: «Паколькі ўсе пячаткі аднолькавыя,

то як старшыня камісіі можа гарантаваць, што нараніцу скрыня будзе апячатаная менавіта яго пячаткай? Бо, атрымліваецца, што не вядома, колькі гэтых аднолькавых пячатак ёсьць. Таму я накіраваў заявы ў пракуратуру і ў акруговую камісію. Пракуратуру я прашу высьветліць, колькі гэтых аднолькавых пячатак існуе, а камісію — прыняць меры па больш надзейным апячатваньні скрыняў».

У заяве ў акруговую камісію Дзяніс Турчаняк просіць дазволіць апячатаць скрыні ўсіх участкаў сваёй, або дадаткова іншай пячаткай..

www.svaboda.org/content/article/24714945.html





прадстаўнікам Федэрацыі прафсаюзаў беларускай знашлося месца для ўключэння ў акруговыя выбарчыя камісіі.

Найбольшая колькасць прадстаўнікоў уключана ад праўладных партый і рухаў: 10 - ад Камуністычнай партыі Беларусі, 10 - ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, 15 - ад аб’яднання “Белая Русь”, 15 - ад Федэрацыі прафсаюзаў, 13 - ад БРСМ.

З Бярозаўскага раёна, які ўпершыню за выбарчыя кампаніі падзелены на 2 акругі, не трапіў ні адзін прадстаўнік ад дэмакратычнай супольнасці ў акруговыя выбарчыя камісіі. Хаця было накіравана 6 вельмі вопытных чалавек: 2 ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі, 1 ад партыі БНФ і тры чалавекі шляхам збору подпісаў. Начальнік галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай работы Брэсцкага аблвыканкама Аляксандр Каляда лічыць, што гэтыя людзі не спрыялі б рабоце камісій:

- Нам хочацца, каб камісія была працаздольнай, каб выбары прайшлі ў акрузе нармальна. І каб камісія, як сказаў, губернатар, працавала, а не высьняла адносіны.

Па словах доўгатэрміновага назіральніка за выбарамі ад праваабарончага цэнтра “Вясна” Уладзіміра Вялічкіна, да працэсу адбору прадстаўнікоў у акруговыя камісіі было падключана УУС Брэсцкага аблвыканкаму. Гэтую інфармацыю яму асабіста агучыў Аляксандр Каляда.



Начальнік галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай працы Брэсцкага аблвыканкама Аляксандр Каляда

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=752

## Хочаце зьбіраць подпісы? Толькі ня ў людных месцах!

Мясцовыя выканкамы вызначылі месцы, дзе дазволена разьмяшчаць выбарчыя пікеты, каб зьбіраць подпісы за вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты.

Як вынікае з рашэньняў, пад забарону трапілі ня толькі цэнтральныя плошчы і вуліцы райцэнтраў, аўтамабільныя й чыгуначныя вакзалы, будынкі мясцовых выканаўчых й распарадчых органаў, судоў, пракуратуры, міліцыі і КДБ, але й проста людныя месцы.

Да прыкладу, у Берасьці забаронена выстаўляць пікеты ў найбольш людных месцах. Праваабаронцы называюць адпаведнае рашэньне гарвыканкаму незаконным.

Паводле рашэньня Берасьцейскага гарвыканкаму ад 4 ліпеня, у абласным цэнтры вызначаны цэлы шэраг найбольш ажыўленых вуліц і плошчаў, дзе будзе забаронена выстаўляць пікет з мэтай збору подпісаў за кандыдата ў дэпутаты.

Зьміцер Шыманскі, кіраўнік Партыі БНФ па Берасьцейшчыне, кажа, што гэтае рашэньне недэмакратычнае, аднак на выбарчую кампанію партыі не паўплывае:

«Калі б сябры Партыі БНФ вырашылі зьбіраць подпісы, то фактычна такой магчымасьці ў Берасьці яны б ня мелі. Зьбіраць подпісы ў месцах, дзе няма людзей, няма сэнсу. Што тычыцца Партыі БНФ, то нашы кандыдаты, ведаючы ўвесь характар і ўсю недэмакратычнасьць выбарчага працэсу, будуць вылучацца шляхам партыйнага вылучэньня. Таму для нас няма такой складанасьці з гэтым рашэньнем».

А вось кіраўнік абласной арганізацыі АГП Уладзімер Вуек кажа, што згаданае рашэньне гарвыканкаму наносіць удар па кандыдатах ад гэтай палітычнай сілы. Бо, акрамя вылучэньня кандыдатаў партыйным мэханізмам, АГП плянуе паралельна ладзіць і збор подпісаў:

А на задворках ці ёсьць увогуле сэнс ставіць пікет?

«Мы будзем узмацняць вылучэньне нашых кандыдатаў шляхам збору подпісаў. А вось паводле апошняга рашэньня гарвыканкаму мы можам сутыкнуцца з такой праблемай падчас збору подпісаў нашых кандыдатаў. А на задворках ці ёсьць увогуле сэнс ставіць пікет?»

Берасьцейскі праваабаронца, прадстаўнік кампаніі «За справядлівыя выбары» Ўладзімер Малей назваў незаконным рашэньне гарвыканкаму аб вызначэньні месцаў, забароненых для пікетаваньня. Спадар кажа,





і іншых плакатаў кандыдатаў размешчана на вітрыне кавярні не будзе.

Сяргей Вакуленка дадаў, што прычынай такой сітуацыі стала бюракратычная валакіта ў вырашэнні пытанняў датычных агітацыйнай кампаніі і няведанне службовымі асобамі выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=3259

## Шурхая выпусьцілі, але забралі байкотныя ўлёткі

Зьмітра Шурхая адпусьцілі зь Леніскага РАУС Берасьця, пратрымаўшы каля трох гадзінаў. У яго забралі 5 тысяч улётак з заклікам да байкоту выбараў.

Зьміцер Шурхай так распавёў «Свабодзе» аб затрыманьні:



«Былі двое — супрацоўнік міліцыі ў форме, участковы інспэктар Ленінскага РАУС Вярэніч і чалавек у цывільным. Хутчэй за ўсё — супрацоўнік КДБ, таму што адразу пасьля затрыманьня ён зьнік. А я з супрацоўнікам міліцыі паехаў у РАУС. Забралі 5 тысяч улётак, якія былі пры мне. Улёткі пра байкот былі. Склалі пратакол аб тым, што забіраюць улёткі і пратакол, што, як, адкуль узяў і гэтак далей… Улёткі забралі на экспэртызу, сказалі, што ў іх ёсьць заклік да зьвяржэньня існуючай улады. Кажуць, што іх ужо ня вернуць, бо там няма зыходных дадзеных».

Кіраўнік БХД па Берасьцейшчыне Зьміцер Шурхай зьяўляецца сябрам берасьцейскай дэмакратычнай кааліцыі «Спадчына», якая заявіла пра байкот выбараў.

www.svaboda.org/content/article/24707724.html

## Чаму пячаткі на скрынях аднолькавыя?

Берасьцейскі каардынатар руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк накіраваў скаргі ў акруговую камісію і пракуратуру. Ён кажа, што скрыні на ўсіх участках Берасьцейскай-Заходняй акругі № 1 апячатваюцца аднолькавым адбіткам.

## ЦВК раіць акруговай камісіі змясціць інфармацыю пра даходы кандыдатаў

Такая рэкамендацыя ўтрымліваецца ў лісце за подпісам старшыні Цэнтрвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай, які атрымаў незалежны кандыдат па Брэсцкай-Заходняй акрузе №1 Аляксандр Мельнік.

Прэтэндэнт на дэпутацкі мандат скардзіўся на тое, што гэтая акруга засталася адзінай у горадзе, дзе на ўчастках для галасавання ў інфармацыйных плакатах, прысвечаных кандыдатам у дэпутаты, няма звестак пра іхнія даходы. Аляксандр Мельнік лічыць, што зроблена гэта акруговай камісіяй наўмысна, бо адзін з прэтэндэнтаў, якога падтрымліваюць улады (гаворка ідзе пра дырэктара Брэсцкага ЦУМа Віктара Валюшыцкага), не жадае агалошваць перад выбаршчыкамі памер свайго заробку, які ў сярэднім складае каля двух тысяч долараў у месяц у беларускіх рублях.

Скарга Мельніка ў акруговы выбаркам плёну не мела, бо там палічылі распаўсюд звестак пра даходы праз інфармацыйныя стэнды немэтазгодным. Разам з тым, нават пасля парады старшыні ЦВК незалежны кандыдат няўпэўнены, што акруговая камісія сапраўды змясціць інфармацыю пра даходы побач з біяграфічнымі звесткамі ўсіх прэтэндэтаў.

spring96.org/be/news/56929

## У Брэсце незалежным кандыдатам не паўсюль дазваляюць вывешваць свае плакаты

У Брэсце забаранілі агітаваць за незалежнага кандыдата ў беларускі парламент. Адміністрацыя кавярні "Талісман" па вуліцы Савецкай адмовлася змяшчаць перадвыбарчы плакат прэтэндэнта ў дэпутаты па Брэсцкай-Заходняй выбарчай акрузе №1 Аляксандра Мельніка.

З гэтаю мэтаю была накіраваная скарга ў акруговую выбарчую камісію.

Давераная асоба кандыдата ў дэпутаты Сяргей Вакуленка патлумачыў прычыны забароны змяшчэння плакату:

- Я, згодна выбарчага кодэкса, маю права размяшчаць і ўзгадняць месцы для размяшчэння для сваіх агітацыйных плакатаў. Дырэктар кавярні "Талісман" у катэгарычнай форме забараніла прымацаваць плакат Аляксандра Мельніка на вітрыне і заявіла наступнае: Валюшыцкі (сапернік Мельніка на выбарах. - рэд.) з'яўляецца яе асабістым сябрам што прадстаўнікі мясцовай дэмакратычнай супольнасьці ўжо яго абскарджваюць:

«Забараніўшы ў гэтых месцах правядзеньне пікетаў, Берасьцейскі гарвыканкам істотна звузіў магчымасьці сябраў ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў, па распаўсюду інфармацыі пра вылучэньне кандыдатам у дэпутаты. Ужо асобныя грамадзяне падалі заяву на імя старшыні Берасьцейскага гарвыканкаму з просьбай адмяніць пункт гэтага рашэньня і абавязаць Берасьцейскі гарвыканкам выдаць яго ў новай рэдакцыі».

У гэтай скарзе прыводзіцца прыклад, што ў 2010 годзе, падчас выбараў прэзыдэнта, Берасьцейскім гарвыканкамам таксама былі ўсе найбольш людныя месцы забароненыя. Аднак, у сувязі са шматлікімі зваротамі падобнае рашэньне было адмененае і пікетаваць на цэнтральных вуліцах дазволілі.

www.svaboda.org/content/article/24642008.html

## У адстойванні права быць уключаным у АВК - адмовіць

У адстойванні права быць уключаным у акруговую выбарчую камісію – адмоўлена. Брэсцкім прадстаўнікам прафсаюза працоўных радыёэлектроннай прамысловасці вынесена вызначэнне на рашэнне суда другой інстанцыі. Брэсцкі абласны суд палічыў, што да заявы павінна было быць далучана пасведчанне заяўніка, якое б пацвярджала ягоную пасаду.

Прававы інспектар Прафсаюзу РЭП у Брэсце Уладзімір Малей лічыць, што ў такім выпадку грамадзяне былі пазбаўленыя права на судовую абарону:

- Суддзя спасылаецца на закон, на тое, што яна ў адпаведнасці з КПК мела права гэта зрабіць. Але, у той жа час, парушана права грамадзяніна, юрыдычнай асобы звярнуцца ў суд дзеля абароны. Яна павінна была ўсё ж такі распачаць грамадзянскую справу. І калі б у судзе не было б прадстаўлена доказаў па паўнамоцтвам, яна павінна была б спыніць справу. Але яна гэтага не зрабіла.

Уладзімір Малей падкрэсліў, што намеснік старшыні рэспубліканскай арганізацыі Прафсаюзу РЭП Зінаіда Міхнюк мае паўнамоцтвы падпісваць дакуманты, у тым ліку падаваць скаргі, пры адсутнасці старшыні.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=859

## Аблвыканкам вырашыў праблему не на карысць грамадзян

Брэсцкі праваабаронца Уладзімір Вялічкін атрымаў адказ з аблвыканкама на сваю скаргу адносна абмежаванасці месцаў для збору подпісаў, вызначаных гарвыканкамам.

Па словах Уладзіміра Вялічкіна, адказ аблвыканкама не вырашыў праблему на карысць грамадзян:

- Усё гэтае рашэнне прынятае дзеля таго, каб увесці ў зман грамадства, каб людзі думалі, што сапраўды ўлады рэагуюць на скаргі і заявы. Насамрэч, яны трымаюць усё гэтае грамадства за дурняў.

Рашэннем гарвыканкама забаронены збор подпісаў практычна на ўсіх цэнтральных вуліцах. Аблвыканкам у сваім адказе паясняе, што вуліцу Савецкую нельга выкарыстоўваць, так як там ідзе падрыхтоўка да святкавання Дня горада, які адбудзецца ў канцы ліпеня. Затое даводзіцца пра выключэнне са спісу забароненых тых вуліц, якія адзначаюцца малазаселенасцю і маланаведвальнасцю грамадзянамі, кажа Вялічкін.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=1050

## Пікеты па збору подпісаў не маюць эфекту



Збор подпісаў за кандыдата Аляксандра Мельніка





– перазапісаць выступ без купюр. Чакала, што будзе нейкі ціск, але што такі жорсткі... і так нечакана гэта было для мяне. Поўнае беззаконне. Калі мы з юрыстам разбіралі гэтыя “палёты”, дык тое, што рабілася – гэта рабаванне сярод вуліцы, настолькі гэта было жорстка і нахабна.

27 жніўня падчас запісу звароту да грамадзянаў па тэлебачанню на кандыдата ў дэпутаты быў аказаны маральны ціск, у тым ліку цэнзуру не прайшлі словы “Лукашэнка”, “пікет” і “байкот”.

Дыяна Касцюковіч падкрэсліла, што скарга будзе таксама накіраваная ў пракуратуру Ленінскага раёна горада Брэста.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=2535

## Абласны суд не задаволіў скаргу назіральніка

Берасьцейскі абласны суд адмовіў у разглядзе скаргі назіральніка акруговай камісіі Брэсцкай-Цэнтральнай выбарчай акругі № 2 Уладзімера Вялічкіна. Назіральнік скардзіўся, што яго не знаёмяць з дакумэнтамі камісіі.

Суд прыняў рашэньне, што гэтая справа не падпадае пад яго юрысдыкцыю. Спадару Вялічкіну параілі зьвярнуцца ў Цэнтравыбаркам. Назіральнік з такой пазыцыяй не пагадзіўся. Ён кажа, што ўжо зьвяртаўся ў ЦВК і скарга не была задаволеная.

Уладзімер Вялічкін кажа, што ўтойваньне пратаколаў паседжаньня камісіі, непразрыстасьць працэдуры праверкі падпісных аркушаў за кандыдатаў сьведчыць пра недэмакратычнасьць выбараў:

«Канстытуцыя і выбарчае заканадаўства канстатуюць, што выбары павінны праводзіцца адкрыта і галосна. Але што ж гэта за адкрытасьць, калі я заходжу — і мне даюць зразумець, што я памыліўся дзьвярыма... Мне ўвесь час адказваюць, але ніякіх дакумэнтаў не паказваюць. Але давяраць непацьверджаным дакумэнтальна словам я не магу. Бо я выпадкова быў пабачыў некалькі падпісных аркушаў, у адным зь якіх прозьвішча сябра ініцыятыўнай групы было напісана адной рукой, а астатняе запаўнялася іншай рукой... Суд адхрысьціўся ад разгляду гэтай справы па сутнасьці. А Лідзія Ярмошына папракае, што гэта я ня ведаю выбарчага заканадаўства. Але схаванасьць выбараў ад назіральнікаў сьведчыць пра іх недэмакратычнасьць».

Уладзімер Вялічкін апавёў, што будзе дабівацца разгляду сваёй скаргі на непразрыстасьць выбарчага працэсу ў Вярхоўным судзе. У выпадку нездавальняючага выніку назіральнік мае намер давесьці справу і да міжнародных інстанцыяў.

www.svaboda.org/content/article/24701198.html

Лідзія Ярмошына падтрымала рашэнне старшыні акруговай выбарчай камісіі № 2. Тады Вялічкін звярнуўся ў суд Маскоўскага раёна, каб вырашыць пытанне адкрытасці працы акруговай камісіі. Суд адмовіўся разглядаць гэтую справу, схаваўшыся за выраз, што справа "непадведамасная" суду.

spring96.org/be/news/56307

## Чарговы зварот са скаргай на дзеянні мясцовых улад

За адстойваннем сваіх правоў – у брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт. Каардынатар Руху "За Свабоду" па Брэсце Дзяніс Турчаняк звярнуўся да мясцовых уладаў са скаргаю на дзеянні адміністрацыі Ленінскага раёна горада Брэста. Яна адмовіла актывісту ў прадастаўленні інфармацыі датычна парушэння права быць абраным у склад участковай выбарчай камісіі №32. Актывіст застаўся незадаволены такім адказам:

- Я прашу вышэйшую ўстанову – брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт – прызнаць дзеянні адміністрацыі Ленінскага раёна неправамернымі, якія прыцясняюць мае правы і падчас узнаўлення маіх правоў абавязаць адміністрацыю Ленінскага раёна скасаваць дапушчаныя парушэнні, а менавіта даць адказ на ўсе 5 пытанняў майго звароту ад 10 жніўня 2012 года.

Як падкрэсліў Дзяніс Турчаняк, адказ ад адміністрацыі Ленінскага раёна горада Брэста супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнароднаму пакту "Аб грамадскіх і палітычных правах".

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=2524

## Дыяна Касцюковіч падала скаргі на цэнзуру выступа на тэлебачанні

У Брэсце скардзяцца на ціск і цэнзуру з боку прадстаўнікоў дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Кандыдат у дэпутаты ад Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Дыяна Касцюковіч паскардзілася на дзеянні супрацоўнікаў Тэлерадыёкампаніі "Брэст". Адмысловыя звароты актывісткаю накіраваныя ў брэсцкую Усходнюю выбарчую акругу №3 горада Брэста, Цэнтральную выбарчую камісію і да адміністрацыі ўказанага СМІ.

Дыяна Касцюковіч:

- Першае патрабаванне – зняць адцэнзураваны выступ з эфіру. І другое





Начальнік галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай працы Брэсцкага аблвыканкама лічыць, што арганізаваныя пікеты для збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты, не будуць плённымі.

Распавядаючы журналістам пра вынікі этапу рэгістрацыі ініцыятыўнай групы ў падтрымку вылучэння кандыдатаў, Аляксандр Каляда (дарэчы, былы сябра Цэнтрвыбаркаму) заявіў, што пікеты - неэфектыўны спосаб збору подпісаў. "Гэта, хутчэй, дадатковая магчымасць піяру, якая напэўна будзе выкарыстоўвацца менавіта з гэтай мэтай, - падкрэсліў Каляда. - Найбольш эфектыўна - ісці ад дзвярэй да дзвярэй, здзяйсняць пакватэрны абход, заходзіць у кожны дом, гутарыць з выбаршчыкамі".

Чыноўнік аблвыканкама, які лічыцца "куратарам" выбарчай кампаніі у рэгіёне, таксама нагадаў, што традыцыйна больш за ўсё ініцыятыўных груп створана ў выбарчых акругах абласнога цэнтра: у Брэсцкай акрузе №1 зарэгістравана 5 ініцыятыўных груп, у акрузе №2 - тры, у акругах №3 і 4 - па чатыры групы. Разам з тым, у "глыбінцы" пакуль назіраецца сітуацыя, у чымсьці падобная з савецкімі часамі, калі выбары былі безальтэрнатыўнымі: у некалькіх акругах зарэгістравана ўсяго па адной ініцыятыўнай групе.

spring96.org/be/news/54965

## Незаконная агітацыя ў Брэсце

У Брэсце выступаюць супраць незаконнай агітацыі за кандыдатаў ад прадстаўнікоў улады. Грамадзянін Аляксандр Мельнік, што плануе вылучацца кандыдатам у дэпутаты ў беларускі парламент, сутыкнуўся з парушэннем заканадаўства Рэспублікі Беларусь і накіраваў скаргу ў брэсцкую абласную пракуратуру. З яго словаў, старшыня падатковай інспекцыі Маскоўскага раёна горада Брэста Лілія Сіняк парэкамендавала супрацоўнікам адлучыцца ад працы і пакінуць подпісы за Віктара Валюшыцкага.

Аляксандр Мельнік лічыць, што ў дадзенай сітуацыі было парушана шэраг нормаў беларускага заканадаўства:

- Па-першае, парушаны працоўны і выбарчы кодэкс, бо ў перыяд збору подпісаў забаронена агітацыя за таго ці іншага кандыдата. Я думаю, пракуратура павінна даць прававую ацэнку, бо праверыць гэта вельмі проста. Трэба звярнуцца да людзей, якія жывуць у Ленінскім раёне, і пацікавіцца, якія былі акалічнасці збору подпісаў.

Як адзначыў Аляксандр Мельнік, парушэнне было выяўлена падчас збору подпісаў. Грамадскі дзеяч мае намер балатавацца па брэсцкай заходняй выбарчай акрузе нумар адзін.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=1356

## У Берасці распаўсюдзілі некалькі тысяч улётак за Байкот

Брэсцкая дэмакратычная кааліцыія "Спадчына" працягвае актыўную інфармацыйную кампанію па байкоце "парламенцкіх выбраў". Сябрамі кааліцыі днямі ў гарадзкіх раёнах Кавалёўка і Вулька былі распаўсюджаныя тысячы ўлётак з заклікам да байкоту.




Альтэрнатыўная інфармацыя аб г.зв. "выбарах" і іх байкоце з падтрымкай віталася берасцейцамі. І ў далейшым інфармацыйная кампанія будзе працягнутая, паведамляе прэс-сакратарыят кааліцыі "Спадчына".

Нагадаем, што ў Берасцейскую дэмакратыную кааліцыю "Спадчына" ўваходзяць берасцейскія арганізацыі БХД, БСДП (Народная Грамада), "Еўрапейской Беларусі", РГА "Перспектыва".

bchd.info/index.php?newsid=6826





## Андрэй Шарэнда атрымаў папярэджанне ад пракуратуры

Як высветлілася, надзорны орган улічыў акалічнасці, якія нібыта сведчаць, што грамадскі актывіст парушыў патрабаванні закона "Аб масавых мерапрыемствах", калі браў удзел у акцыі 19 снежня 2010 года ў Мінску.

Як паведаміў праваабаронца Раман Кісляк, у дакуменце, на падставе якога Андрэю Шарэнду вынесена афіцыйнае папярэджанне "аб недапушчальнасці паўторнага здзяйсненні правапарушэння", гаворыцца пра тое, што Шарэнда ў дзень прэзідэнцкіх выбараў "прымаў актыўны ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, які суправаджаўся грубым парушэннем грамадскага парадку, непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, які прывёў да парушэнне працы транспарту".

Раман Кісляк здзіўлены тым, што папярэджанне на падставе падзей снежня 2010 года вынесена менавіта зараз і звязвае такія дзеянні пракуратуры з цяперашняй выбарчай кампаніяй.

"Я расцэньваю гэта як запалохванне актывістаў апазіцыі перад маючымі адбыцца 23 верасня парламенцкімі выбарамі, - кажа праваабаронца. - Улады выкарыстоўваюць механізм рэпрэсіўнага заканадаўства, якое тычыцца масавых мерапрыемстваў, дзеля таго, каб грамадзяне не маглі свабодна выказваць сваё меркаванне на мітынгах і дэманстрацыях".

spring96.org/be/news/56736

## Назіральнік праз суд дамагаецца адкрытасці працы акруговай камісіі

Праваабаронца Уладзімір Вялічкін, які з'яўляецца назіральнікам у камісіі выбарчай акругі № 2 Брэста, 25 жніўня звярнуўся ў калегію па грамадзянскіх справах абласнога суда з просьбай адмяніць вызначэнне суда Маскоўскага раёна Брэста пра тое, што яго справа "непадведамасная" суду, і перадаць яго заяву на разгляд іншаму суддзі.

Назіральнік дамагаецца выканання сваіх функцый у АВК №2 у поўным аб'ёме. Напрыклад, Вялічкін хацеў прысутнічаць пры праверцы подпісаў і дакументаў прэтэндэнтаў у кандыдаты Палаты прадстаўнікоў і пазнаёміцца з дакументацыяй гэтай камісіі, але яму незаконна ў гэтым адмовілі. Уладзімір Вялічкін звярнуўся са скаргай у ЦВК. Старшыня ЦВК

спрабаваў аспрэчыць рашэнне мясцовых уладаў пра забарону пікету пад лозунгам “За справядлівыя выбары без Лукашэнкі”.

Падставай для забароны гэтага мерапрыемства Брэсцкім гарвыканкамам з’явілася тое, што ў дзень, на які быў заяўлены пікет, на стадыёне “Лакаматыў” (ён пазначаны як пляцоўка для правядзення масавых акцый у горадзе) запланавалі футбольны матч. Аднак Уладзімір Вуек перакананы, што адмова была беспадстаўная і спартовае спаборніцтва ніяк не замінала таму, каб адбыўся пікет. “Галоўная прычына ў тым, якой тэме была прысвечана акцыя, - лічыць кіраўнік абласной арганізацыі АГП. – Наша партыя паслядоўна выступае за правязенне свабодных і дэмакратычных выбараў у краіне. Аднак, пакуль ва ўладзе знаходзіцца Аляксандр Лукашэнка, не варта спадзявацца ні на сапраўдныя выбары, ні на справядлівы разгляд скаргаў у беларускіх судах, якія зараз не з’яўляюцца незалежнымі”.

spring96.org/be/news/56579

## Давераныя асобы незалежнага кандыдата ў дэпутаты ў Брэсце падвяргаюцца ціску

Як распавёў Аляксандр Мельнік, іх выклікаюць ідыёлагі, папярэджваюць, што побач з імі ў спісе ёсць сябры партыі БНФ і пужаюць наступствамі. Прэтэндэнт на дэпутацкае крэсла інфармацыю пра сяброўства ў партыі сваіх давераных асобаў абвяргае. З мэтаю высвятлення сітуацыі Аляксандр Мельнік звярнуўся ў Брэсцейскую-Заходнюю акруговую камісію №1:

- Я звярнуўся ў акруговую камісію з просьбай правесці расследаванне, на якой падставе быў перададзены спіс з акруговай камісіі маіх давераных асоб у Брэсцкае абласное ўпраўленне ідэалогіі і Абласны ваенны камісарыят. На якой падставе работнік ваенкамата займаецца дыскрэдытацыяй маіх давераных асоб, у прыватнасці распаўсюджвае загадзя ілжывую інфармацыю аб прыналежнасці маіх давераных асоб да палітычнай партыі Беларускі Народны Фронт.

Аляксандр Мельнік яшчэ на пачатку парламенцкай кампаніі-2012 заявіў у незалежных сродках масавай інфармацыі, што на выбарах ён не прадстаўляе інтарэсы ніякай палітычнай партыі, а ідзе на выбары як незалежны кандыдат.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=2887





## Ганна Канюс накіравала скаргу ў акруговую камісію

У Брэсце зноў скардзяцца на Віктара Валюшыцкага. Старшыня брэсцкай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ганна Канюс падала скаргу ў акруговую выбарчую камісію па брэсцкай заходняй выбарчай акрузе №1. Са словаў патэнцыйнага кандыдата ў дэпутаты, падставаю да звароту стала злоўжыванне адміністрацыйным рэсурсам.

Ганна Канюс адзначыла, што парушэнне заканадаўства з боку кадыдатаў ад прадстаўнікоў улады пачало ўваходзіць у сістэму:

- Найбольш выклікае абурэнне тое, што ўлада не саромеецца парушаць заканадаўства. Парушаны выбарчы кодэкс. Вельмі часта, калі зборшчыкі подпісаў ходзяць па кватэрах ім распавядаюць, што бралі ўжо подпісы альбо на прцы, альбо казалі падпісацца толькі за кандыдатаў ад улады. Гэта вельмі часта сустракаецца і,на жаль, стала такой нормай.

У скарзе падкрэсліваецца, што ад сябраў ініцыятыўнай групы стала вядома, што ў перыяд з 15 па 18 ліпеня гэтага году дырэктар брэсцкага Цэнтральнага Універмага Віктар Валюшыцкі арганізаваў сход у службовым памяшканні і абвесціў, што абавязкова стане дэпутатам. Больш таго, як значыцца ў лісце, ён падкрэсліў, што „старэйшым“ дамоў неабходна садзейнічаць кампаніі збора подпісаў выбаршчыкаў, дзеля вылучэння яго кандыдатам у дэпутаты ў беларускі парламент.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=1439

## Падаткавікоў у працоўны час накіравалі падпісацца за дырэктара ЦУМа

Адзін з мяркуемых вылучэнцаў кандыдатам у дэпутаты звярнуўся ў пракуратуру Брэсцкай вобласці са скаргай на дзеянні ініцыятыўнай групы, якая збірае подпісы ў падтрымку дырэктара мясцовага ЦУМа Віктара Валюшыцкага.

Жыхар Брэста Аляксандар Мельнік, які таксама збіраецца вылучацца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у сваёй скарзе прыводзіць прыклады, як парушаецца выбарчае заканадаўства падчас этапу збору подпісаў. Так, паводле яго словаў, старшыня падатковай інспекцыі Маскоўскага раёна горада Брэста Лілія Сіняк парэкамендавала супрацоўнікам адлучыцца ад працы і пакінуць подпісы за Віктара

Валюшыцкага. Гэты прэтэндэнт працуе дырэктарам Брэсцкага цэнтральнага універмага і адначасова з'яўляецца кіраўніком раённай суполкі РГА "Белая Русь" .

Аляксандр Мельнік лічыць недапушчальным такія факты і мяркуе, што пракуратура павінна адрэагаваць у гэтым выпадку, тым больш, што правесці праверку будзе нескладана.

Як ужо паведамлялася раней, выяўлены выпадкі, калі аналагічным чынам з выкарыстаннем адміністратыўнага рэсурсу ў Брэсце збіраюцца подпісы за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты галоўнага лекара гарадской бальніцы хуткай дапамогі Валянціна Мілашэўскага.

spring96.org/be/news/55272

## Дэмакратычная супольнасць Брэстчыны вылучыла сваіх прадстаўнікоў

Каля 130 чалавек вылучана ва ўчастковыя камісіі па Брэсту і Брэсцкай вобласці ад прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці. У прыватнасці, ад БНФ вылучаны 51 чалавек, ад партыі левых "Справядлівы свет" – 43 чалавека, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) – 17 чалавек, ад Аб'яднанай Грамадзянскай партыі – 15 чалавек і ад праваабарончай арганізацыі Рух "За свабоду" – 5 чалавек.

"Менавіта на ўчастках для галасавання адбываюцца асноўныя фальсіфікацыі ," - адзначыў старшыня брэсцкай абласной арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Ўладзімір Вуек:

- Гэта тыя выбарчыя ўчасткі, куды непасрэдна прыходзіць выбаршчык, дзе ён галасуе, і тут падлічваюцца галасы. Ва ўчастковых камісіях мы будзем бачыць колькі людзей прымае ўдзел у галасаванні.

Як адзначыў каардынатар праваабарончай арганізацыі "Рух за свабоду" па Брэсту Дзяніс Турчаняк, верагодна, што большасць з заяўленых людзей ад дэмаркратычнага руху проста ня будуць уключаныя ва ўчастковыя камісіі. Па яго меркаванню, адбор могуць не прайсці адукаваныя і дасведчаныя людзі, што не раз мелі вопыт прадухілення фальсіфікацый.

Утварэнне ўчастковых выбарчых камісій адбудзецца да 8 жніўня ўключна. Выбары ў беларускі парламент пройдуць 23 верасня.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=1551

## У Брэсце ад прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці ў УВК прайшло 14 чалавек

Чатырнаццаць чалавек – роўна столькі прайшло ў Брэсце ад





то я стаўлю пад сумнеў увесь гэты выбарчы працэс».

Уладзімер Вялічкін накіраваў у адказ зварот у ЦВК, у якім тлумачыць, што забарона знаёміцца з дакумэнтамі выбарчай камісіі супярэчыць рэалізацыі прынцыпу адкрытасьці і галоснасьці, замацаванага ў Выбарчым кодэксе.

Акрамя таго, спадар Вялічкін рыхтуецца абскарджваць дзеяньні старшыні акруговай выбарчай камісіі Галіны Янгаленка ў абласным судзе.

www.svaboda.org/content/article/24683961.html

## Суд у Брэсце адмовіўся разглядаць справу Уладзіміра Вялічкіна

Суд першай інстанцыі ў горадзе над Бугам адмовіўся разглядаць справу ў дачыненні да парушэння Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Такі адказ атрымаў назіральнік па другой выбарчай акрузе горада Брэста Уладзімір Вялічкін. Падставаю да адмовы стала "непадведамнасць суду". Грамадскі дзеяч у сваю чаргу лічыць, што такім чынам парушаецца ягонае права на справядлівае судовае разбіральніцтва:

– З тым, на што ссылаецца суддзя ў сваім вызначэнні, а спасылаецца яна на тое, што гэтыя справы разглядаюцца ў межах выбарчага заканадаўства, я не згодны. Таму пасля таго як усе прыступкі выбарчага заканадаўства я прайшоў, я звярнуўся ў тую інстанцыю, у якую зварот мне гарантуе Канстытуцыя РБ, дзе напісана, што кожны мае права на абарону ў судзе.

Прычынаю звароту ў суд сталі адказы ад акруговай выбарчай камісіі № 2 горада Брэста і Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь. Яны не ўбачылі парушэння закону ў адмове ў прадастаўленні дакументаў аб вылучэнні прэтэндэнтаў у кандыдаты ў беларускі парламент і лісты з подпісамі выбаршчыкаў назіральніку на выбарчай акрузе.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=2422

## Суд падтрымаў забарону пікету "За справядлівыя выбары без Лукашэнкі"

Брэсцкі абласны суд не задаволіў скаргу старшыні абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзіміра Вуека, які

у распаўсюджванні ў дачыненні да яго ілжывай інфармацыі. Пасля гэтага акруговая камісія вынесла прадстаўніцы брэсцкіх сацыял-дэмакратаў папярэджанне, а сама яна абскардзіла гэтае рашэнне ў ЦВК.

На паседжанні 17 жніўня Цэнтрвыбаркам практычна аднагалосна (супраць прагаласаваў толькі сакратар ЦВК Мікалай Лазавік) задаволіў скаргу Ганны Канюс і адмяніў папярэджанне. Паводле старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, хоць з боку Канюс і былі “дапушчаныя неэтычныя дзеянні, але гэта не з’яўляецца падставай для вынясення папярэджання”.

spring96.org/be/news/55984

## Уладзімер Вялічкін абразіўся на Лідзію Ярмошыну

Берасьцейскі праваабаронца Ўладзімер Вялічкін — назіральнік пры пры акруговай камісіі па Берасьцейскай Цэнтральнай акрузе № 2. Старшыня гэтай камісіі адмовіла яму ў азнаямленьні з матэрыяламі пра вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты. Вялічкін паскардзіўся ў ЦВК.

У адказе за подпісам старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай паведамляецца, што назіральніку ў азнаямленьні з пратаколамі паседжаньняў камісіі адмоўлена небезпадстаўна:

«Інфармацыя, якая ўтрымліваецца ў скарзе, сьведчыць пра тое, што вы як назіральнік ня ведаеце сваіх правоў, прадугледжаных выбарчым заканадаўствам», — адказвае Вялічкіну Лідзія Ярмошына.

Паводле старшыні ЦВК , што часткі 4 і 5 артыкулу 13 Выбарчага кодэксу не даюць права назіральніку «патрабаваць у акруговай камісіі азнаямленьня з матэрыяламі па вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты, прадастаўленьня пратаколаў паседжаньня акруговай камісіі».

Вялічкін: «Я лічу гэты адказ несур’ёзным, заканадаўства мне не забараняе знаёміцца з матэрыяламі камісіі.

Адказам, што я не валодаю заканадаўствам, Лідзія Ярмошына мяне абражае. Абражае і ўсіх тых выбарцаў, якія мяне накіравалі назіральнікам.

Яна піша, што дзеяньні старшыні камісіі Галіны Янгаленка правільныя. То няхай мне Лідзія Ярмошына пакажа ў заканадаўстве, што я не магу знаёміцца з дакумэнтацыяй, якая вядзецца ў камісіі. Я ў Выбарчым кодэксе гэтага ня бачу, як ня бачу і ў дапаможніку для выбарчых камісій, выдадзеным у ЦВК. Калі я не магу пацьвердзіць дакумэнтальна інфармацыю, якую агучвае старшыня выбарчай камісіі,





прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці ва ўчастковыя камісіі. У прыватнасці – гэта па чатыры чалавекі ад партыі левых “Справядлівы свет”, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), БНФ і два чалавекі ад Аб’яднанай Грамадзянскай партыі.

Старшыня брэсцкай гарадской арганізацыі партыі левых “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка адзначыла, што большасць сяброў партыі дэмакратычнага кірунку засталіся няўключанымі ў камісіі:

- Тыя ж самыя вынікі, што і на мінулых выбарах. Не ўключылі людзей, якія маюць вельмі вялікі досвед працы. Улады пайшлі на тое, каб уключыць новых людзей і тых, хто працаваў на мінулых выбарах.

Агулам падчас Парламенцкай кампаніі-2012 ў Брэсце будзе дзейнічаць больш за сотню выбарчых участкаў, у той жа момант на іх будзе працаваць больш за тысячу сяброў камісій.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=1732

## Афіцыйнае выданне назвала высновы назіральнікаў АБСЕ “прадказальна памылковымі”

Апошняя публікацыя выбарчай тэматыкі ў брэсцкай газеце “Заря” пад назвай ”Сцэнкі вакол ацэнкі” прысвечаная справаздачы ацэначнай місіі БДІПЧ АБСЕ, высновы якой аўтар артыкула Яўген Літвіновіч назваў “прадказальна памылковымі”.

Журналіст папракнуў міжнародную арганізацыю ў тым, што яны аддавалі перавагу інфармацыі ад прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, што маюць апазіцыйныя погляды. “Вакол “незалежнай” ацэнкі разгарнулася сапраўднае тэатральная дзея, у якой “гледачам” з АБСЕ старанна падыгрывалі мясцовыя ангажаваныя “артысты”, якія спрабуюць прадставіць выбарчую кампанію далёка не ў праўдзівым святле”, - адзначае Літвіновіч.

Далей аўтар аспрэчвае высновы місіі пра тое, што цікавасць беларускіх грамадзян да выбараў даволі нізкая, а давер грамадства да выбарчага працэсу адсутнічае. У супрацьвагу ён прыводзіць дадзеныя сацыялагічных даследаванняў паводле Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру пры Адміністрацыі прэзідэнта, якія сведчаць аб адваротным: каля 83% паўналетніх беларусаў збіраюцца прымаць удзел у парламенцкіх выбарах, пры гэтым 84% апытаных схільныя даяраць іх вынікаў. “Да такіх паказчыкаў яшчэ імкнуцца і імкнуцца самай

дэмакратычнай дзяржаве Еўропы, дзе палітычная актыўнасць насельніцтва нярэдка з’яўляецца паняццем з разраду чыста намінальных”, - павучае аўтар публікацыі, не ўзгадваючы, пра якую краіну ідзе гутарка.

Увогуле Яўген Літвіновіч знайшоў ажно чатыры высновы ў справаздачы, якія, на ягоную думку, не адпавядаюць рэчаіснасці. А паколькі “памылкі” ацэначнай місіі АБСЕ – гэта нібыта вынік таго, што “эксперты занадта даверліва паставіліся да інфармацыі нядобрасумленных крыніц”, аўтар сцвярджае: “Сёння некаторыя апаненты дзеючай улады заяўляюць, што іх задача зрабіць не так, каб выбары прайшлі свабодна і дэмакратычна, а так, каб знайсці як мага больш недахопаў”. Таму журналісмт заклікае не надта давяраць незалежным назіральнікам, бо яны прыцягваюць увагу сусветнай грамадскасці “да далёкіх ад жыцця тэм”.

spring96.org/be/news/55547

## Партыйцы падалі дакументы на рэгістрацыю кандыдатамі

У прыватнасці, крыху больш за тысячу подпісаў было падазена ў выбарчыя камісіі Брэсцкай-Заходняй акругі №1 і Брэсцкай-Цэнтральнай акругі №2 адпаведна за вылучэнне старшыні гарадской суполкі Беларускай сацыял–дэмакратычнай партыі (Грамада) Ганны Канюс і кіраўніка абласной арганізацыі гэтай партыі Ігара Маслоўскага. Акрамя збору подпісаў яны таксама былі вылучаны партыйным з’ездам.

Ад Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” у Брэсце вылучаюцца чатыры асобы – Людміла Дзенісенка (акруга №1), Вадзім Дарахвілідзэ (№2), Ірына Серыкава (№3), Анатоль Новік (№4). “У гэты раз мы вырашылі, што будзем падаваць дакументы на рэгістрацыю ў выбаркамы як вылучэнцы партыі, нягледзячы тое, што нашы ініцыятыўныя групы таксама збіралі подпісы”, - адзначыла старшыня гарадской арганіазцыі “Справядлівага свету” Людміла Дзенісенка.

Брэсцкія прадстаўнікі Аб’яднанай грамадзянскай партыі падалі дакументы на рэгістрацыю свайго патэнцыйнага кандыдата (якім з’яўляецца Дыяна Касцюковіч) у Брэсцкай-Усходняй выбарчай акрузе №3. Згодна са стратэгіяй АГП на гэтую парламенцкую кампанію ў Брэсце, як і ў іншых гарадах Беларусі, пасля заканчэння агітацыйнага перыяду кандыдат будзе здымацца.

spring96.org/be/news/55709





## Больш за 20 апазіцыянераў вылучаецца па Брэстчыне, 9 з іх у Брэсце

Больш за 20 апазіцыянераў, патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты падалі дакументы на рэгістрацыю ў акруговыя камісіі па Брэсцкай вобласці. З іх - 7 прадстаўнікоў ад Партыі БНФ, па 5 прадстаўнікоў ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і партыі левых “Справядлівы свет” і 4 ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі. У Брэсце агульная колькасць апазіцыянераў жадаючых стаць кандыдатамі ў дэпутаты, склала 9 чалавек.

На этапе рэгістрацыі цяжка сказаць, як будзе паводзіць сябе ўлада і прадстаўнікі акруговых камісій, - выказала сваё меркаванне патэнцыйны кандыдат у дэпутаты ў беларускі парламент ад АГП у Брэсце Дыяна Касцюковіч:

- Улада непрадказальная, такія крокі могуць быць, што за галаву можна схапіцца. Калі пачнецца агітацыйны перыяд, я ўпэўнена, што перашкоды будуць. Якія не ведаю, але можа не быць памяшкання, не тыя кашулькі апранутыя, не там стаім, не тое напісалі.

13 жніўня – апошні дзень падачы дакументаў на рэгістрацыю патэнцыйных кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Пасля рэгістрацыі кандыдатаў пачнецца агітацыйны перыяд.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=1903

## Цэнтрвыбаркам адмяніў папярэджанне Ганне Канюс

Папярэджанне кіраўніку Брэсцкай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), якая вылучана кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, было вынесена выбарчай камісіяй Брэсцкай-Заходняй акругі №1.

Падставай для папярэджання сталася тое, што Ганна Канюс нібыта распаўсюджвала неправераныя чуткі пра дырэктара брэсцкага ЦУМа Віктара Валюшыцкага, які таксама з’яўляецца прэтэндэнтам ў кандыдаты. Насамрэч, Канюс прасіла акруговую камісію праверыць некаторыя факты, якія маглі б сведчыць пра парушэнне выбарчага заканадаўства з боку Валюшыцкага. Гэтая праверка не пацвердзіла звесткі кіраўніка мясцовай суполкі БСДП (Грамада), а ў выніку ўжо дырэктар ЦУМа падаў заяву ў выбаркам, абвінаваціўшы Ганну Канюс